# Генадзь

# БУРАЎКІН

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ Ў ДВУХ ТАМАХ

## ТОМ ПЕРШЫ

ВЕРШЫ
ПАЭМЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

## ЦВЁРДАЯ ЦАНА СЛОВА

Хоць біяграфія Генадзя Бураўкіна вядома ўсім, хто цікавіцца паэзіяй, удакладню, што дала яго нам не багатая на землі, а шчодрая на таленты Віцебшчына, у прыватнасці, Расоншчына, чыіх паселішчаў найболей на сумным могільніку вёсак у Хатыні. Сам паэт родам з вайны (нарадзіўся Генадзь Мікалаевіч Бураўкін 28 жніўня 1936 г.), ягоная паэзія таксама родам з вайны.

Крытыка называе пакаленне Генадзя Бураўкіна пакаленнем, апаленым вайной, але, відаць, дакладной было б пазваць яго пакаленнем, не спаленым вайной, якое цудам ацалела, каб быць маладымі вачыма памяці і прысуду, напаміну і перасцярогі.

Крытыка называе пакаленне Генадзя Бураўкіна філалагічным пакаленнем, бо, у асноўным, усе прадстаўнікі гэтага пакалення ў літаратуры маюць гуманітарную адукацыю. Але гэтаму пакаленню не столькі філфакі універсітэтаў і педінстытутаў далі веданне слова, прышчапілі любоў да роднага слова, колькі вёска і пасёлак, маці і суседзі перадалі дапытлівым нашчадкам праз вякі пранесенае і затуленае ад лютавеяў часу слова,— каб берaглі, каб шанавалі, каб гранілі. Беларускае слова да пакалення Генадзя Бураўкіна прыйшло не з газеты і радыё, пе з фальклорных запісаў, а з першых вуснаў тых, каму слова роднае гучыць натуральна, адзіна правільна, адзіна магчыма. Назаву колькі імёнаў з пакалення Генадзя Бураўкіна толькі паэтаў, каб чытач меў пэўнае ўражанне пра сучасны стан нашай паэзіі, гэта — Васіль Зуёнак і Міхась Стральцоў, Кастусь Цвірка і Юрась Свірка, Янка Сіпакоў і Уладзімір Паўлаў, заўчасна адышоўшыя ад нас Сымон Блатун і выдатнейшы знаўца паэзіі Варлен Бечык.

Крытыка называе пакаленне Генадзя Бураўкіна задзірыстым. Цяпер не гэтак і часта называе, як раней, і не ўсіх называе ўжо. Бо пакаленне гэтае прыйшло ў літаратуру ў часіны ачышчальных вятроў ва ўсім нашым грамадстве, у часіны найбольшай шчырасці і адкрытасці ў адносінах паміж людзьмі ў нашым грамадстве, у часіны, якім спрыялі гістарычныя рашэнні XX з'езда нашай партыі.

І гэта зусім не поза, а натуральная праява характару Генадзя Бураўкіна, калі ён, пасталелы, правераны справай і славай, кажа:

*Не з капрону і не з жалеза,*
*Нервы тонкія і ў мяне.*
*А ўсё роўна наперад лезу,*
*Каб у вочы плюнуць мане.*

З першых публікацый у прэсе адчуваўся самабытны талент Генадзя Бураўкіна, пачынала праяўляцца грамадзянскасць таленту паэта, трыбуннасць і актыўнасць паэтавага слова. І разам з тым лірычнасць, мяккасць, стрыманая расчуленасць. (У свой час Рыгор Бярозкін любіў кінуць вясёлую заўвагу, што некаторыя думаюць: паэт-трыбун і спаць павінен у трыбуне). У Генадзя Бураўкіна былі добрыя настаўнікі, такія, як Уладзімір Маякоўскі, Уладзімір Лугаўской, па-зямляцку блізкі Пятрусь Броўка. Пафас у Генадзя Бураўкіна заўсёды плоцевы, вобразны, канкрэтнаадрасны, лірыка адкрытая і цнатлівая, задушэўная і мужная.

*Хай,*
*таямнічая і яркая,*
*Са дна вачэй каханых мне*
*Недасягальная Палярная*
*Хоць раз гарэзна падміргне.*

Пра гэта напросіць позні Генадзь Бураўкін. А малады член літаб'яднання пры «Чырвонай змене» вострапрофільны Генадзь будзе прывозіць з канікул з роднай Полаччыны вершы, у якіх захоча «прайсці на зямлі самым верным любімым сынам», у якіх будзе запрашаць прыехаць на Полаччыну і паблукаць яе прасторамі, а не за морамі шукаць экзотык. Малады Генадзь Бураўкін будзе ўпэўнена казаць:

*І як бы мы ні пастарэлі,*
*Няхай і летам, і зімой*
*Юнацтва сінія арэлі*
*Ляцяць між небам і зямлёй...*

І пазнейшы Генадзь Бураўкін, які аб'едзе і абляціць свет з прысветкам, пацвердзіць юначы запавет:

*Шукаем сцежак невядомых,*
*Чужыя топчам бальшакі.*
*А песні нас чакаюць дома,*
*Ля цёплай матчынай шчакі.*

А ўладай успаміну хочацца зноў і зноў вярнуцца да вытокаў паэзіі Генадзя Бураўкіна, да сталення ягонага таленту, да часін, калі набывала эпічныя абрысы паэзія трапяткога майстра. Малады паэт усё болей упарта і ўпэўнена ўзіраўся ў мінулае свайго краю, у мінулае, якое было побач, паўсядзённа ў Полацку і ягоных ваколіцах. Гэта прыдасца пасля для паэм, бураўкінскіх паэм, якія будуць будавацца асацыятыўпа-нервова, вынаходліва і дужа канкрэтна па дэталях. І пачне праступаць праз стагоддзі Полацк, ягоная слава, ягоная шчодрасць на спадчынны працяг.

*І не проста ўжо рыпнуў запознены крок,*
*І дымком пацягнула ад фабрык,—*
*Гэта рыпнуў Скарыны друкарскі станок,*
*Гэта пахне друкарскаю фарбай.*

Пасля вершаў Генадзя Бураўкіна, калі ні прыязджаеш у Полацк, заўсёды прыгадваюцца радкі паэта, заўсёды адчуваецца прысутнасць паэта ў гэтым старэйшым горадзе славянскага свету. Не кожны паэт мае свой горад, ды яшчэ такі. Мала нарадзіцца ў пэўным горадзе, мець адмеціну ў нашпарце, трэба так любіць свой горад, так уславіць яго, так прачуць ягоную гісторыю і сённяшні дзень, каб горад зваўся тваім, каб ты быў яму родны. Генадзь Бураўпік шчаслівы паэт — ён мае свой горад, векавечны Полацк. А па ўзор Полацка будуе Генадзь Бураўкін і горад сваёй паэзіі з дакладнага радка, маштабнага вобраза, гнуткай рыфмы.
І пільна бачыць ён ускраіну, дзе

*Качкі*
*на хвалі*
*вядуць качанят калыхаць.*

Вока паэта, звыклае да ўскраіны, бачыць нават, як шпак

*...збіраецца*
*з клейкіх пупышак*
*на кожным суку*
*Распаліць*
*сто маленькіх*
*зялёных пажараў...*

Аднак пэўная ідылія адноснага спакою па зямлі не дае права паэту забыцца на жахі вайны, на тое зло, якое тварылі адшчапенцы. Пра здрадніка паэт гаворыць гнеўна і не даруе яму, бо

*Ён абраў сабе*
*здраду.*
*Нібы рукі Радзімы,*
*Пагоны скінуў з плячэй.*

А ў ФРГ недзе паблажліва ідзе працэс над былым нацыстам, і паэт звяртаецца на высокіх нотах да пракурора:

*Слухайце, пракурор!*
*Паклічце ў сведкі вайну,*
*Не можаце вайну — паклічце майго суседа!..*

Бо суседа ягонага праз столькі гадоў даганяе вайна, не дае магчымасці забыцца на боль і пакуты.

Паэт ведае, якой цаной заплацілі за права мірна жыць усе людзі нашай краіны — і ягоны бацька, і аднавяскоўцы, і сусед цераз сценку. Жыццё смяецца маладым, і паэт бачыць сімвал вечнага руху вясны — сіпі званочак:

*І была ў сінім сэрцы кожнага званка*
*Белая-белая слязінка...*

Лірык Генадзь Бураўкін бачыць слязінку ў сінім сэрцы званка, у збалелым сэрцы маці, якая ўсё яшчэ чакае з вайны сваіх самых родных і блізкіх, бачыць слязінку ў вачах кожнага пакрыўджанага не толькі лёсам, але і чэрствасцю адносін.

Пейзажная лірыка Генадзя Бураўкіна ашчадная на фарбы, стрыманая, але надзвычай душэўная, бо ідзе яна з радзімы паэта, з паўночнай Беларусі, дзе заўсёды цаніліся развага, шчырасць, унутранае багацце, дзе не дужа паважалі і не паважаюць цяпер усё паказное, уяўнае, кідзістае. Толькі вока паэта, закаханага ў свой край, можа ўбачыць у, здавалася б, аднастайным і халодным краявідзе столькі цеплыні:

*Ідуць дажджы.*
*Асенняя пара.*
*Заплаканыя вокны спахмурнелі.*
*Аўторка не адрозніш ад нядзелі,*
*Ад быльнягу — шпачынага пяра.*

Як саграваае душу шпачынае пяро былыпяжынкі, як вяртае на радзіму, у дарагі сэрцу куток маленства адчуць дрыготку дотыку босай нагой да родных сцежак

*І ўбачыць зноў,*
*як*
*каля хаты*
*Хаваецца ў дрымотны цень,*
*Як бацька,*
*ціхі і вусаты,*
*Крыху ссутулены*
*ячмень.*
*А потым*
*выбегчы знянацку*
*Да хаты з засені бяроз*
*І на двары*
*аклікнуць бацьку*
*І маці,*
*светлую ад слёз.*

Ячмень параўнаць з бацькам можа толькі нашчадны хлебароб, які адчувае непарыўныя карані з роднай глебай. І толькі дома, на зямлі бацькоў, на родным падворышчы відаць, як

*У чыстым небе,*
*маладым і сінім,*
*Перапляліся промні з павуціннем...*

Паэт рыхтаваў сам сябе пе натужна, без зададзенасці да паэм. І не з чарговай паездкі, пе з жадання адгукнуцца на падзею ўзнікла адна з лепшых у нашай паэзіі паэма «Хатынскі снег». Да паэмы гэтай рыхтавала паэта вайна ў няскоранай Полаччыне, адчуванне гневу пароднага, болю людскога сэрца, уменне паэзіі Генадзя Бураўкіна быць зразуметай і зразумець патаемнасць і пераемнасць пачуцця гаркоты і радасці, адчаю і надзеі. У паэме мала клічнікаў, няма заклікаў, яна самім паказам рэчаў, самім сваім ладам гучыць рэквіемна і пранозліва, яна вучыць шанаваць жыццё і змагацца за яго. Паэма невялікая памерам, а сказана ў ёй шмат, шмат жыццяў змешчана ў страснай паэме, жыццяў, якія толькі фізічна перамагла смерць. Ад лепшых традыцый рускай і роднай паэзіі бяруць вытокі паэмы Генадзя Бураўкіна, і ў прыватнасці «Хатынскі снег». Дакладнае бачанне акрэслена болем і пазначана акрыленасцю думкі. Дэталі гавораць самі:

*Карнікі*
*бензінам*
*апошнюю свечку надзеі згасілі.*
*У шчыліну*
*полымя*
*пачало ўтыкаць чырвоныя крывыя нажы.*

Сапраўды, немы крык працінае душу, калі чытаеш, калі сам нібыта апынаешся там, у пекле Хатыні:

*Ад немага крыку*
*абвалілася пуня.*
*Грымнулі вобзем дзверы.*
*І ўпала,*
*як чырвоны куль,*
*Халоднага снегу шукала*
*сляпая бабуля,*
*А знайшла толькі жменю гарачых куль.*

Якая дакладнасць, жудасная дакладнасць малюнка, якая сялянскасць вобраза: пуня ўпала, як чырвоны куль. Куль звычайна асацыіруецца з паняццем хлеба, ураджаю, а тут чырвоны куль — вобраз знішчэння, смерці. Рыфма пуня — бабуля набліжае пуню да вобраза бабулі. І сляпая

бабуля шукае халодны снег, як і тая ж полымем ахопленая пуня. І гарачыя кулі завяршаюць жуду, завяршаюць жыццё дзвюх сялянак, дзвюх спрадвечных працаўніц, дзвюх захавальніц дабра і дабрыні — пуні і бабулі. Усе вобразы ў паэме з сялянскага побыту, з побыту хлебадараў.

*І засквірчэлі на плячах кажухі...*

*Мядзведзем*
*пад ліпай асунуўся спалены вулей.*
*Як растаптаны месяц,*
*вытыркаўся з попелу медны таз.*

І не трэба ніякіх заклікаў, гучных слоў у абарону мірнай працы супраць вайны, перачытайце радкі:

*Там*
*на залітай крывёю зямлі*
*Маці — прыгаршчамі,*
*А сын — жменькаю попелу*
*Побач ляглі.*

І тая ж тэма смерці ў «Паэме расстання», прысвечанай памяці першага грамадзяніна Сусвету Юрыя Гагарына, зноў жменька, але ўжо ўзнятая над зямлёй:

*Плыла*
*над зямлёй*
*па апошняй дарозе*
*Жменька сплаўленай з небам зямлі.*

Зноў жа і Юрыя Гагарына даганяла вайна. Яны амаль аднагодкамі былі: паэт Генадзь Бураўкін і касманаўт Юры Гагарын. І заключныя радкі «Паэмы расстання» гучаць незямному важка і па-касмічнаму зорна:

*І навекі думка ленінская застанецца.*
*І ўсмешка гагарынская —*
*таксама.*

І пасля ў паэме «Ленін думае пра Беларусь», у заключэнні паэт з прыхаванай смяшынкай скажа:

*Можа, зморшчыцца строгі гісторык:*
*«Факты выбраў на свой капыл.*
*Гэтак нехта папіша скора —*
*Ленін думаў і... пра Капыль...»*

І ўжо ўпэўнена, палемічна даскажа паэт:

*Я, не крыўдзячы мудрай навукі,*
*На сябе адказнасць вазьму:*
*Ленін думаў*
*пра нас і ўнукаў,*
*Пра Капыль, і Лагойск, і Карму.*

На першы позірк рыфма пацягнула Капыль, а на самой справе, калі прыгадаць, што з Капыля Цішка Гартны — старшыня Часовага рэвалюцыйнага ўрада Савецкай Беларусі, а ў Карме ствараў першую школу-камуну паплечнік Леніна Лепяшынскі, дык стане зразумела, што за прыхаванай усмешкай, за адкрытай публіцыстычнасцю стаіць дасведчанасць аўтара, яго ўменне праз канкрэтнае паказаць абагуленае, ёмістае, багатае на змест жыццё. У паэме «Ленін думае пра Беларусь» паэт змог сказаць шмат пра Леніна, дарагога сэрцу кожнага беларуса, зрабіць Леніна беларускім ці дакладней — убачыць велічную постаць Уладзіміра Ільіча вачыма беларуса, вачыма ўдзякі, вачыма пашаны, вачыма захаплення. Натуральна ў паэме ўзнікаюць фігуры Янкі Купалы, Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага. «Ленін думае пра Беларусь» — хрэстаматыйная рэч беларускай Лeнініяны. Невыпадкова зборнік паэзіі Генадзя Бураўкіна «Варта вернасці», куды ўваходзіла паэма «Ленін думае пра Беларусь», быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы.

Дыяпазон таленту Генадзя Бураўкіна шырокі: гнеўны публіцыст, шчыры лірык, абураны гумарыст, усмешлівы дзіцячы дарадчык, празаік-дакументаліст, кінасцэнарыст, паэт-песеннік, высокапрафесійны перакладчык савецкай і зарубежнай паэзіі. Вось паслухайце, як гучаць назвы ягоных зборнікаў паэзіі, прозы, кінафільмаў, яны самі за сябе гавораць, не трэба растлумачваць: «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне», «Жніво», «Выток», «Пяшчота», «Гняздо для птушкі радасці», «Тры казкі пра

Зая», «Апаленая памяць», «Тры старонкі з легенды», «Падарожжа па Беларусі», «Полымя».

Актыўны грамадскі дзеяч, нястомны падарожнік і прадстаўнік Беларусі на самых паважных міжнародных форумах, бунтоўны паэт Генадзь Бураўкін адчувае адказнасць за час, за нашае заўтра, яго турбуе лёс планеты, але як паэт ён любіць жыццё поўна, кахае адкрыта, з бураўкінскім выклікам ханжам і прыкідшчыкам:

*Адхіну ўспамінаў грэшных дымку,*
*Дзе схаваў я ад чужых людзей*
*Сонейка заспанае — радзімку —*
*У лагчынцы белай між грудзей...*

А помніце, у «Паэме расстання» Юры Гагарын бачыў сонца «маленькім, лагодным — вяснушкаю на Валіным твары».

Паэзія Генадзя Бураўкіна любіць сонца, ненавідзіць цемру і цемрашалаў усіх масцей. Неспакой за мірнае неба, на якім так хораша адчувае сябе сонца, не пакідае паэта ні на хвіліну:

*Духавыя аркестры,*
*Паходныя трубы*
*Папулярнымі робяцца*
*Перад вайной.*

Сёння паэзія Генадзя Бураўкіна ў самым поўдні, у якім «няма вячэрняй асцярожнасці і ранішняй туманнасці няма». А поўдзень — пара сталага роздуму над жыццём, над зробленым, пара сенавання, пара стагавання. Даверлівы з чытачом, як з самім сабой, паэт адкрываецца:

*Ды мне не страшна:*
*нешта застанецца*
*Пасля мяне ад дум маіх і спраў,*
*Ад парыванняў, што ў душы сабраў.*
*Я веру: нешта ў свеце застанецца...*
*Застанецца*
*на роднай зямлі грудок.*
*Застанецца*
*на роднай мове радок...*

Вернасць роднай мове праносіць праз усё жыццё паэт Генадзь Бураўкін, робячы ўсё, каб нашае слова гучала шырока і далёка.

І па-бураўкінску шчыра гучаць радкі прызнання:

*І сэнс не ў тым,*
*куды сягну,*
*Кім стану я ў наш век сталёвы,*
*А ў тым,*
*каб цвёрдую цану*
*Ніколі не згубіла слова...*

У слова Генадзя Бураўкіна цвёрдая цана. Слову Генадзя Бураўкіна вераць. Слова Генадзя Бураўкіна чакаюць.

*Рыгор Барадулін*

## Я ІДУ...

Сёння я незвычайна радасны,
Ну, не хлопец —
усмешка адна:
Цеплынёю дваццаціградуснай
Абагрэла мяне вясна.

Люстры-лужыны
проста ў вочы
Сотні сонцаў мне навялі.
І лягчэй,
і прыемней крочыць
Па сырой, атагрэтай зямлі.

І паветра здаецца мядовым,
І нябёсы —
чысцей і сіней.
Я іду — дваццацігадовы,
І дзяўчаты глядзяць на мяне.

І, напэўна, таму,
што рады я
Захапленню ў вачах дзяўчат,
Так пяшчотна спявае радыё,
Так свавольна звініць ручай.

А каб сум, як атрутны стронцый,
Супыняючы кроў, не лез,
Вось вазьму ў спадарожнікі сонца
І на ноч не пушчу за лес.

І з ягоным святлом непатушаным
Абыду ўвесь зямны прасцяг,
Незвычайна шчаслівы і ўзрушаны,
Перапоўнены прагаіі жыцця...

**БЕЛАРУСІ**

У любві да цябе я не раз буду клясціся.
Не таму,
каб ты помніла клятву маю.
Проста, дзе ні пабуду —
у Смаргоні ці ў Клясціцах,—
Я ўсё болей цябе пазнаю.

Пазнаю цябе юнаю і старажытнаю,
У сузор'ях агнёў і ў паводках бяроз.
Колькі раз кожным нервам сваім,
кожнай жылкаю
Перажыў я твой мужны і велічны лёс!

Колькі вызнаў і вынес ты,
краю мой мілы!..
І сягоння ўспамін твае грудзі пячэ,
Дзе старыя акопы,
як пустыя магілы,
Што сябры закапаць не паспелі яшчэ.

У нябыт
і нядоля і ворагі рынулі...
І цяпер
прыгажэй, даражэй удвая,
Ты стаіш, Беларусь,
завадская, зубрыная...
Я — пясчынка твая.
Я — крывінка твая.

І ў любві да цябе я не раз буду клясціся.
Не таму, каб ты помніла клятву маю.
Проста, дзе ні пабуду —
у Смаргоні ці ў Клясціцах,—
Я ўсё болей сябе пазнаю.

**САШКА**

Цаліна!..
Пакаленне майго неспакойныя сны,
Пераклічка з гадамі Карчагіна і Кашавога,
Гром аркестра
і слёзы ў начной цішыні,
І прамыя шляхі,
і крывая дарога…

Часам мамчыны дочкі трывалі і ў дождж і ў мароз,
А ўцякалі дадому хлапцы у матроскіх цяльняшках…
Вось туды,
у казахскія стэпы,
занёс
Лёс таварыша нашага даўняга — Сашку.

Ён па дрэвах не лазіў, не купаўся ў вірах,
дзе самы,
Часта ўвосень хварэў,
асцярожны і кволы.
І калі на начлегах аб подзвігах марылі мы,
Дык яго у хлапечы свой гурт не прымалі ніколі.

Ён жа ў стэпе з сябрамі выцягваў
на мокрых плячах
Трактары з непралазнай гразі і завалаў бурана,
У дашчаных вагончыках мёрз па начах
І вясёлыя пісьмы пісаў землякам-палачанам.

Не здымаў ён вясною па сутках з штурвала рукі
І не ведаў,
што недзе над Сожам і Шчарай
Выразалі з газеты ягоны партрэт хлапчукі,
Што гурбой на начлегах аб подзвігах мараць.

**ДЛЯ ПАРТЫЗАНСКІХ СЦЯГОЎ**

Яны выцвілі ў дыме боек,
Каля зыркіх начных кастроў
І прынеслі ў залу з сабою
Родны пах беларускіх бароў.

Дзе між імі той самы родны,
З пахам хвой і купальскіх траў,
Той, які пад агнём кулямётным
Бацька мой цалаваў?

Можа, гэты, прабіты куляй?
Край яго парудзеў ад крыві.
Да яго працягнуў руку я,
Поўны шчасця, тугі і любві,

Каб узняць яго зноў, як бацька,
Не збаяцца нягоды любой...
Чую раптам: «Не дакранацца
Да музейнага сцяга рукой!»

Гэта вы, вартаўнік?
Прабачце.
Адшукаў запаветны сцяг.
Гэта, пэўна, яго мой бацька
Перад смерцю збярог на грудзях.

Гэта ён тут, паміж сцягамі,
Самы просты з музейных сцягоў.
Калі нельга рукой —
губамі
Мне дазвольце крануцца яго.

**ПОЛАЧЧЫНА**

Не шукайце красы за морамі,
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі,
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

Тут азёры, як неба, сінія,
У чаротах чароды гусіныя,
А на дне Млечным Шляхам свецяцца
Трапяткія гурты язіныя.

Навальніцы грымяць над кручамі,
З гор бягуць ручаі грымучыя,
Тут ля Дрысы сасонкі звонкія,
Над Дзвіною бары пявучыя.

Тут вясёлкай сонца акружана,
Усміхаецца з кожнай лужыны.
Тут на кожнага закаханага
Салаўёў па чатыры тузіны.

Тут дзяўчаты ўсе — чарнабровыя,
На палях ільны двухметровыя...
Тут пад кожным курганам і каменем —
Ці быліна, ці казка чароўная...

**У МАЎЗАЛЕІ**

Мне трэба
доўга-доўга раіцца
Пра сотні планаў і падзей...
Ды ў Маўзалеі
не спыняюцца —
Плыве,
плыве паток людзей.

І не крыўдую ні на кога я:
Тут кожны,
як і я,
прынёс
Да Ільіна
на споведзь строгую
Увесь свой чалавечы лёс...

* * *

Я з твайго неспакойнага племені,
                                                  Партыя,
Хоць ля сэрца білет твой яшчэ не нашу.
Гэта ты разам з маці дала мне ўпартую
І няўрымслівую душу.

Гэта ты мне адкрыла прасторы шырокія
І ў дарогу ўручыла свой дапытлівы зрок.
І заўсёды
            з тваімі ўладарнымі крокамі
Я зніто ўваю кожны свой крок.

З тваім словам,
                    з тваёю бацькоўскай нарадаю
Мы з'іначым зялёную нашу зямлю.
І калі —
          «Камуністы, наперад!» —
                                        скамандуюць,
Я таксама наперад ступлю.

Аддаю табе рукі
                    і сэрца юначае
І прымаю твой казачны, смелы разгон.
Б’юцца ў жылах маіх —
                              кроў гарачая матчына,
Твой кастрычніцкі вечны агонь.

## РАБОЧЫ ПАСЁЛАК

Я люблю рабочыя пасёлкі —
Белыя,
адналькавыя домікі,
У дварах
пясок,
ці верас колкі,
Ці ядловец парыжэлы, ломкі.

Тут
па вечарах пасля работы,
Пазмываўшы з рук мазут машынны,
Дужыя,
разважлівыя,
потныя,
Пад грыбком збіраюцца мужчыны.

І кладуць на стол цяжкія рукі,
Адганяюць «Беламорам» стому
І павіны,
быццам падарункі,
Раздаюць
адзін другому…

Я люблю такія «асамблеі»,
Калі ўсё
рабочай мерай мераюць,
Кажуць пра далёкую Гвінею
Так,
як пра суседа па кватэры.

Вось сюды б
заморскіх дыпламатаў —
Хай бы занатоўвалі ў блакноты,

Як без выкрутасаў,
грубавата
Тут штовечар ім складаюць ноты.

Пад грыбком,
дзе свішча вецер золкі,
Хай бы падзівіліся яны,
Як здае
рабочаму пасёлку
Справаздачу
цэлы шар зямны.

* * *

Вочы сінія-сінія…
Косы тугія…
Хтось шчаслівы, як кажуць, дзяўчыну
хрысціў.
Трэба вытаптаць многа дарог,
каб другія
Вочы гэткія,
гэткія косы знайсці.

Пра такіх, пэўна,
казкі складалі ў народзе,
Надзяляючы сотнямі светлых імён…
А цяпер —
гарманісты чародамі ходзяць,
Носяць песні-прызнанні ўначы ля акон.

А яна —
маладая ў сваёй прыгажосці —
Ні прызнанняў,
ні песень не хоча яна.
Аднаго прычакаць бы ёй толькі у госці,
Ды з зямлёю яго абвянчала вайна…

Не згуляе вяселля
той, хто гэтак абвенчан.
А яна ўсё чакае,
верыць казачным снам,
Адганяе сватоў, што прарочаць:
не вечна
Будзе доўгай каса, будзе яркай краса.

І даўно з хаты ў хату
і з вуха у вуха
Носяць бабы па вёсцы няўмольны прысуд:

Застанецца яна назаўжды векавухай,
Нізавошта састарыць, загубіць красу…

Я не знаю,
быць можа, і праўда, не трэба
Ёй, прыгожай такой, адзінокаю жыць.
Я ж яе разумею…
І вельмі хацеў бы
Вось такое каханне ў жыцці заслужыць.

* * *

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягне дзіўная сіла мяне да ракі.

Цэлы дзень у прадонных крынічных віроў
Бачу гульні язёў, чуйны сон шчупакоў.

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягнуць, нібы магнітам, мяне сасннякі.

Я гатоў слухаць там ад зары да зары
Перашэпты вяршалін густых угары,

Слухаць дзятла няроўны паспешлівы стук,
Чуць, як проста з-пад ног сыраежкі растуць...

Я адчуў, што і я не чужы на зямлі,
Што гараць на далонях маіх мазалі...

Да хмурынак-пярын, у паўдзённы блакіт,
Свае звонкія песні ўзнялі жаўрукі.

Чую: гліцу і мох прабіваюць грыбы...
Каб не быў чалавекам, я б жаўранкам быў

І спяваў бы нястомней за ўсіх і званчэй,
Каб рабілася людзям ад песні лягчэй,

Каб шпарчэй узнімаліся ўвысь сасннякі,
Каб вяліся ў вірлівай рацэ шчупакі...

Я не знаю, удаўся ў каго я такі...

**ЛАСТАЎКІ**

Дарагія мае, ляціце
Пад зацішны смалісты дах
І люляйце вясну ў блакіце
На тугіх трапяткіх крылах.

Белагрудыя госці веснія,
Вам франтонаў хопіць на ўсіх,
Будзе вашы картавыя песні
Сіні вецер ля вокал насіць.

А калі птушанятка выкіне
Навальніца пад кроплі дажджу,
Я рукамі,
                да працы звыклымі,
Сам яго ў гняздо насаджу…

Дык ляціце да нас, ляціце
Пад смалісты пахучы дах
І шчаслівыя песні нясіце
На тугіх трапяткіх крылах!..

* * *

Калі часам трохі засумуецца
І адчую на душы тугу,
Я выходжу да людзей на вуліцу,
У натоўпе шматгалосы гул.

Паспяшаю непрыкметна зліцца
Я з табою, гарадскі прыбой,
Каб у шумнай радасці згубіцца
Са сваёй нязначнаю журбой.

І на кроплі, па маленькай частцы
Мне ў душу збалелую ідзе
Нехаванае чужое шчасце
Толькі што спатканых мной людзей.

І яны маю бяду-навалу
Разнясуць, развеюць назаўжды,
Запрашаюць нават запявалам
У свае вясёлыя рады.

Не скруціць ніякай чорнай скрусе
Маладосць крылатую маю.
Я іду з усімі
і смяюся,
Я іду з усімі
і пяю.

І калі каго бяда агорне,
Трапіцца журботны хтосьці нам,—
Я вазьму ў яго часціну гора,
Частку сваёй радасці — аддам.

ПОЛАЦК. НАФТАБУД

**НА ПЯРЭДНІМ КРАІ**

Пярэдні край будаўнічых работ праходзіць каля былых фашысцкіх дотаў.

Пярэдні край…
Крык адзінокай сойкі.
Асколкі ў сэрцы кожнае сасны…
Тут ад крыві,
а не ад летняй спёкі
Чырвоны колер
у палян лясных.

І прывідны,
як даўні шлем тэўтонца,
Нязграбны, як вялізны шэры крот,
Халоднымі байніцамі на сонца
Ашчэрыўся пракляты тройчы дот.

Пярэдні край…
Тут па любой сцяжынцы
Збярэш свінцу
і гільз дзесяткі топ.
Ды ад расплаты
не схаваў чужынца
Таўшчэзны адшліфованы бетон.

З карэннем экскаватар вырывае
Апошні след,
дзе быў фашыста бот.
Ідзе-гудзе азёрным мірным краем,
Як кажуць тут,
шырокі фронт работ.

Пярэдні край
Не моўкне ўдзень і ўночы.
Глядзі і слухай,
абымшэлы дот,
Як над Дзвіною
пераможна крочыць,
Як зноў грыміць
Наш беларускі фронт.

**АПОШНЯЯ ПРЫКМЕТА СЛАБАДЫ**

Не хоча ён ніяк скарыцца студзеню,
Старэнькі адзінокі журавель,
Парыпвае пад вымерзлаю студняю,
Матляецца у закруці завей.

А ўсё бліжэй
ад елак зацярушаных
Кран падпаўзае
з пошумам вятроў.
І ён да крана цягне,
цягне ўзрушана
Драўлянае счарнелае вядро.

Ён так хацеў бы даць яму напіцца,
Ды вымерзла і высахла вада.

Была калісьці
у вядры вадзіца,
Была калісьці
вёска Слабада.

І раптам вёска,
нібы ў казцы,
знікла —
І горад ззяе сотнямі агнёў.
І жураўлю старэнькаму нязвыкла,
Што на яго забыліся даўно.

А ён хацеў бы вельмі
ў звонкі ранак
Махнуць на ўсё —
на вецер і мароз,
Пайсці
і стаць паміж магутных кранаў,
Ды ён стары
і да зямлі прырос...

**ДАРОГА КАЛЯ ЦЭЦ**

Даўно апрыклі шафёрам «дзівосы» —
Іх сёлета шмат прыпасла зіма,—
Не разбярэш,
дзе зіма, дзе восень.
Злуюцца хлопцы:
дарог няма.
Машыны
бензінам і маслам напоены,
Толькі б стралою на іх ляцець.

А тут,
уся ў буграх, у выбоінах,
Змяёй
каляіна паўзе каля ЦЭЦ.

І вось машына
знясіленым вязнем
Садзіцца, як кажуць, па ўсе масты
І ў каляіне размолатай гразне,
Падмяўшы пад колы
абочын кусты.

І калі трос пачынае лопацца
І валіць дым з выхлапной трубы,
Тады скідаюць ватоўкі хлопцы,
Шапкамі выціраюць ілбы.

І падстаўляюць шырокія плечы,
Выносяць з гразі зморананы ЗІЛ,
Жартуюць:
— Без нашых сіл чалавечых
Не ўправіцца
тысячам конскіх сіл...

**НАФТАБУДАЎЦЫ СЛУХАЮЦЬ ШАХМАТНЫ ВЫПУСК АПОШНІХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ**

Парыпваюць старыя елкі глуха,
Ля вокан ходзіць вецер баравы.
А інтэрнат стамлёны прагна слухае
Сіняўскага з аснежанай Масквы.

Дым папяросны плавае пад столлю,
Гудуць хлапцы,
як сонныя чмялі.
Стаяць паважна шахматы на століках,
Пад пільнай вартай пешак — каралі.

Гросмайстарам заслужаным падказваюць
З цяжкіх цэйтнотаў самы хітры лаз
Балельшчык Петрасяна — дужы мазавец
І друг Смыслова — ціхі верхалаз.

Іх дзень уходаў слотаю і працаю.
І заўтра ляжа ўсё на плечы зноў.
Паспаць бы ім...
Ды не —
цяжкімі пальцамі
Перастаўляюць коней і сланоў...

**ПЕРШЫЯ З ДЫНАСТЫІ**

Пад вечар у дзетсадзе —
дзверы насцеж.
І сыплецца да стомленых бацькоў
Крыклівая, шчаслівая дынастыя
Мурзатых палачан-нафтавікоў.

І на двары з бацькамі разам тоўпіцца,
У рукавы ім тулячы насы...
Бялявая дзяўчынка —
у літоўца,
У армяніна —
чарнавокі сын.

У іх ад снежак рукавічкі вымаклі,
Заледзянелі пальцы ад вятроў —
І грэюць ручкі будучыя хімікі
У далонях маляроў і цесляроў.

Яны яшчэ не ведаюць,
віхрастыя,
Прывыклыя да лялек і свісткоў,
Што імі
пачынаецца дынастыя
Патомных палачан-нафтавікоў.

***г. Навапалацк***

* * *

Нам адведзена шмат гадоў.
Мы на іх атрымалі права
Ад братоў, ад бацькоў
і дзядоў,
Што палеглі ў зямлю са славаіі.

Дзед...
Ён чэсна касіў і араў,
Надрываў свае грудзі і рукі
І маліўся, калі паміраў:
— Хай маё дажывуць унукі.

Бацьку зрэзаў фашысцкі свінец,
Ён упаў на зялёнае жыта
І не ўзняўся.
Прасіў толькі смерць
Нам аддаць яго век недажыты.

О, гады...
Толькі жыць нам і жыць
За сябе,
За дзеда,
За тату
І за брата,
Што ў Вене ляжыць,
Не сустрэўшы свой год дваццаты.

Жыць і жыць...
Ды гатовы заўжды
За Радзіму сваю
без прынукі
Мы пакласці жыццё...
А гады...
Хай за нас дажывуць унукі.

## ТАНЦЫ ЛЯ ВАЕНКАМАТА

Танцы ля ваенкамата,
Танцы ля ваенкамата...
Стрыжаныя,
у ватоўках хлопцы.
У дзявочых вачах —
туга.
І маці,
старыя, прыціхлыя маці:
«Вось і да малодшых
дайшла чарга».

А пары
кружацца ў вальсе.
Танцы ля ваенкамата.
І ў нязграбных стрыжаных хлопцаў
Бесклапотны настрой...
А потым
уладна грымне
На гулкім двары каманда
І стройныя сяржанты
Выраўняюць строй
І будуць хлопцы дагледжаны,
Накормлены
і абуты,
І старшына ім выдасць
Удосталь
махоркі і сноў...
Маці,
чаго ж вы плачаце,
Чаго глядзіце са смуткам
На стрыжаных
і нязграбных
Малодшых сыноў?..

Сыны вашы хутка вернуцца,
Ім будзе ў арміі добра.
І маці
слёзы ўціраюць
Сарамліва
шурпатай рукой.
Яны за сыноў спакойныя.
Што зробіш,
калі падобны
Стрыжаныя, у ватоўках хлопцы
На паўшых сваіх бацькоў...

## ПАЛЕСКАЯ БАЛАДА

> Памяці загінуўшых у час Вялікай Айчыннай вайны Івана Цубы, які паўтарыў подзвіг Івана Сусаніна, і яго брата Міхала.

Ёсць на Піншчыне рэчка Лань.
Там зімой ходзіць берагам здань.

Круцяць снег, гоняць снег вятры.
Праз завею ідзе стары,

Кажушок на прыгнутых плячах,
Боль пякельны ў патухлых вачах.

У халодным пажары завей
Ён далёкага брата заве:

«Дзе твой след? Дзе ты, родны, ляжыш?
Ці спакойна ты, братка, спіш?

Ці харошыя сняцца сны,
Ці чуваць табе шум лясны?

Я адпомсціў забойцам тваім,
Кінуў багну пад ногі ім.

Сам я ўпоперак шляху лёг,
Сам заблытаў ім сотні дарог,

Сам я зоркі ўгары згасіў,
Сем галодных ваўкоў запрасіў,

Партызан ад нападу збярог,
Не прадаў нашых родных дарог...

Дзе ж ты, брат? Што ж ты, братка, маўчыш?
Дзе твой след? Дзе твой крыж?»

Круцяць снег, гоняць снег вятры.
Праз завею ідзе стары...

**УСПАМІН**

Песень, помню, не спявалі маткі,
А бацькі, браты пайшлі ў лясы...
І рабілі мы тады рагаткі,
Разбівалі вокны і насы.

Адшукаўшы ў прыдарожным пыле
Груду шчэбня, без чаргі — усе
Па партрэту Гітлера лупілі,
Што на хаце старасты вісеў.

Часта дзынкалі і шыб асколкі.
Столькі гневу, цвёрдасці было,
Што на здымку заставаўся толькі
Клок валосся, ссунуты на лоб...

Дзе ж вы, нашы смешныя рагаткі?..
Прэе смецце ў касках чужаніц.
Нам Радзіма уручыла скаткі,
Аўтаматы і спакой граніц.

І маленства даўнім сном здаецца,
Толькі часам па вучэбны пляц
Мы прыносім боль тых дзён у сэрцы —
І ў «дзесятку» кулі ўсе ляцяць.

## БЯЗБАЦЬКАВІЧЫ

*Рыгору Барадуліну*

Сорак пяты.
Незабыўны год сорак пяты...
Маёвыя песні
Пасля шэрых ваенных зім.
О, як мы ляцелі —
Толькі мільгалі пяты —
Насустрач салдатам вусатым,
Насустрач бацькам
жывым.

Мы нават і спаць не клаліся
Без бацькоўскай пілоткі,
Усе ў медалях блішчастых
Хадзілі ў сяброў ля акна.
Шчаслівыя,
Мы не бачылі,
Што плакалі
аднагодкі,
Якіх сурова назвала
Бязбацькавічамі
вайна.

Яны тады навучыліся
Хаваць мужчынскія слёзы,
Яны тады вучыліся
Матак сваіх берагчы.
Не па гадах маўклівыя,
Зацятыя
і сур'ёзныя,
Бацькоў —
У медалях, у ордэнах —
Снілі яны штоначы.

З пасівелымі маткамі поплеч
Працу любую рабілі,
Многія не паспелі
Закончыць дзесяты клас.
Сонца, сівер і слота
Твары ім агрубілі.
Здавалася, што і душы
Агрубіць нялёгкі час.

Яны служылі ў арміі,
Яны спраўлялі вяселлі.
Упарта
Бацькі несустрэтыя
Сніліся зноў і зноў.
Дарагія сябры-бязбацькавічы
Аблыселі і абвуселі.
І мы вучымся ў іх пяшчоце,
Калі няньчаць яны сыноў...

## БРЭСТУ

Не,
не турыстам,
не сярод гасцей,—
Як сын,
што доўга не бывае дома,
Я прыязджаю ў Брэст усё часцей.
І ўжо даўно мне тут усё вядома:

І засень паркаў,
людных і густых...
І ўскраіны
з запыленым агрэстам...
І Мухавец...
І сум таполяў тых,
Што,
як штыкі,
ускінуты над Брэстам.

Я кожны раз прыходжу да фартоў,
Стаю ля брамы
доўга,
як паломнік,
І кланяюся зноў
зямлі святой,
Дзе кожны камень
як маўклівы помнік.

Дзе б ні блукаў па свеце,—
абмінуць
Я не магу свяшчэнныя руіны.
І сэрца
кожны раз
хоць пяць мінут
Абавязкова тут пабыць павінна.

Я не баюся тут
мурам сівым,
Задымленым байніцам
спавядацца...
Не як з музеем, Брэст,—
як з вартавым
Вітаюся я моўчкі,
па-сваяцку...

**ЗАВЯШЧАННЕ**

*Героям-камсамольцам Обалі*

Няма пад вашай магілай помніка.
Голы,
Невысокі грудок
ад вятроў і дажджоў парыжэў.
Але мы чуем,
мы чуем ваш голас —
І ён для нас
за ўсе помнікі даражэй.

«Дарагая зямля!
Надыходзіць з табою расстанне.
Ты вельмі прыгожая сёння,
Хоць і дождж асенні імжыць.
Хутка будзе світанне.
Хутка нас на зямлі не стане.
Людзі!
Помніце, людзі,—
Нам вельмі хацелася жыць.

Мы ў сваіх біяграфіях
Не закончылі першай старонкі,
Яна чыстая-чыстая
Перад намі ляжыць...
Нас не будзе.
А на зямлі
расцвітуць рамонкі.
Мы любілі рамонкі.
Нам вельмі хацелася жыць.

Калі скажуць,
Што мы баяліся смерці,—
Не верце.

Мы будзем спяваць перад смерцю
І голас не задрыжыць.
Толькі,
чуеце,—
Мы завяшчаем
жыццём і смерцю —
Вы не маеце права
Дрэнна і мала жыць.

Нам жа вельмі хацелася жыць...»

**ЗДРАДНІК**

На вайне
Кожны міг
можна з куляй сустрэцца,
Нават ціхманым золкам.
Калі гулка крычаць драчы.
Паміраць не хацелася
Ні ў сорак першым.
ні ў сорак трэцім.
І салдаты пра смерць не думалі,
У бой ідучы.

Ён жа
думаў пра смерць,
Пра сваю,
калі раптам снарадам
Разарвецца зямля над нагамі
І вочы агнём апячэ.
У салдата —
жыццё або смерць.
Ён абраў сабе
здраду.
Нібы рукі Радзімы,
Пагоны скінуў з плячэй.

Ён імчаў напрасткі,
Слізкай цемрай атулены.
Бег —
і боты тапталі
Магілы сяброў.
Ён упаў.
І не ведаў,
Свая ці варожая куля
Абарвала дарогу
Да цёмных бароў...

І сягоння
Стаяць абеліскі,
Наліваецца жыта,
Расцвітаюць бяссмертнай
Там,
Дзе ўпалі салдаты
на шляхах перамог.
Крапівой і асотам
Зарастаюць магілы чужынцаў.
А дзе здраднік ляжыць —
Толькі пыл,
Толькі голы пясок,
Толькі мох...

**ПОЛАЦКАЯ БАЛАДА**

Я люблю тваю чуйную зімнюю ціш,
Мой абсыпаны зоркамі горад.
Хто сказаў, што ты ноччу маўчыш?
Ты не спіш.
Ты са мною гаворыш.

Толькі ўслухацца лепш у марозны спакой,
Толькі вочы закрыць на хвіліну —
І пачуеш дыханне далёкіх вякоў,
Старадаўнія песні-быліны.

І не проста ўжо рыпнуў запознены крок,
І дымком пацягнула ад фабрык,—
Гэта рыпнуў Скарыны друкарскі станок,
Гэта пахне друкарскаю фарбай.

Рукавом выцер потны, задумлівы твар,
Стаў пад лютаўскім ветрам, ля сходак,
З хрустам плечы расправіў
стамлёны друкар,
Мой разумны,
няўрымслівы продак.

І не дуб недзе крэкнуў, парушыўшы ціш,—
Зарыпелі ўладарна батфорты.
То ад Верхняга замка спяшае сюды ж
Пётра Першы,
суровы і горды...

Хто сказаў, што тут ноччу няма ні душы
І ўсё гэта —
рамантыка, ўрэшце,
Толькі снег зарыпіць, зазвіняць ледашы
І нікому з магіл не ўваскрэсні?

Не,
прыслухайся лепш:
не ільдзінкі звіняць
Гэта шаблі абківеры звоняць,
Гэта цяжка даецца французам Дзвіна,
Заіржалі трывожныя коні...

І таму я люблю слухаць зорную ціш,
Твае казкі начныя, мой горад...
Хто сказаў, што ты ноччу маўчыш?
Ты не спіш.
Ты са мною гаворыш...

## УСКРАІНЫ

Люблю вечарамі
гарадскія ўскраіны.
За кожным плотам
буяюць сады.
Салаўі заліваюцца.
І цыбатыя краны
З цікаўнасцю
паварочваюць шыі сюды.

Каля самых двароў
серабрыцца рэчка.
Качкі
на хвалі
вядуць качанят калыхаць.
Над градкамі шастае вецер,
настоены на парэчках,
І смакуюць яго старыя,
што сядзяць каля хат.

Але неба цямнее.
Успыхваюць зоры.
Цёплы туман
наплывае з лугоў.
Цішыня.
І толькі чуваць, як бразгаюць
клямкі,
замкі,
запоры,
Як спускаюць сабак з ланцугоў.

Абгароджаныя ўскраіны
ненавіджу начамі.
Платы двухметровыя на трэскі
крышыць гатоў,

Калі,
сыта ікаючы,
спаць кладуцца мяшчане,
А раз’юшаныя сабакі
салаўёў выганяюць з садоў.

Зубы сцяўшы, іду ад сваёй русакосай
І гыркатыя зграі шчаслівымі крокамі злю.
Ад такога брэху сабачага ўвосень
З галін кідаюцца яблыкі
і разбіваюцца аб зямлю...

Дзе б яны ні былі,
ненавіджу ўскраіны,
Што на грошы ўзважваюць
бэзу гронкі і яблынь плады.
І я чую:
скрыгочуць,—
напэўна, зубамі —
краны,
Скрышыць ім не церпіцца
будкі сабачыя і платы.

## СТАРОНКІ З ФЕСТЫВАЛЬНАГА БЛАКНОТА

* * *

> У ноч з 29 на 30 ліпеня 1962 года пад вокнамі школы, дзе жылі савецкія турысты на Восьмым Сусветным фестывалі моладзі, антыфестывальшчыкі ўзарвалі «бомбу».

Мы спалі, як дома,—
На цёплых шурпатых далонях.
Усмешкі
Яшчэ астывалі
На вуснах і вейках.
І снілі мы
росныя сцежкі,
і коней,
І ціхія вочы каханых,
І феерверкі...

Мы ў сне
Да каханых нясмелыя рукі цягнулі,
Мы коней паілі,
Мы...
Дзынкнулі здзіўлена шыбы,
І дымам запахла...
І мы выляталі,
як кулі,

На двор,
Проста ў дым,
Проста ў выбух…

Нам выбух
Ударыў па сэрцы ўспамінам, як плёткай,
Як плёткай эсэсаўца,—
І ўваскрасала адразу
У памяці нашай
Дзяцінства
ў рубцах і пілотках,
Дзяцінства
Без хлеба,
Без песень,
Без казак…

Улегліся моўчкі мы.
Сціснуты вусны сурова.
Насуплены бровы.
Напяты ва ўсіх жаўлакі.
На белых падушках
Пакладзены пад галовы
Цяжкія,
Нібы камяні барыкад,
Кулакі…

## СУСТРЭЧА З АФРЫКАЙ

Вось яна —
крочыць, шумная,
У тугія тамтамы грукоча.
А пад чорнымі вейкамі — сумныя,
Як у вязня, сумныя вочы.

І мне стала яна зразумелаю —
Белазубая,
стройная,
рослая,
Што ад гневу робіцца белаю
І чырвонай ад радасці робіцца.

Чужаземным ярмом заморaная,
Змардаваная, непакорная,
Не ад сонца Афрыка чорная —
Ад гора Афрыка чорная.

Твар маршчыны цяжкія нарэзалі,
Мазалі, як крывавыя раны...
Не ад смагі вусны патрэсканы,
Ад знявагі яны пакусаны.

Будзь праклята,
чорнае ўчора!..
Клічуць заўтра
тугія тамтамы...
І спавіта Афрыка чорная
Белым сары[1],
нібы бінтамі...

**ЭМІГРАНТКІ**

Спярша было нялёгка звыкнуцца,
Што тут не так,
як нас вучылі,
Што эмігранты —
і дзянікінцы,
І проста рускія жанчыны.

[1] Сары — жаночая вопратка некаторых народаў Афрыкі і Індыі.

І што адны — навекі ворагі
І нас бы кулямі скасілі,
А для другіх і сёння дорага
Усё, што звязана з Расіяй.

Для тых, што засталіся рускімі,
Былі мы частачкай радзімы —
Разанцы стройныя і русыя
І чарнавусыя грузіны.

Мы гаварылі з эмігранткамі
І ў госці прыязджаць прасілі,
І проста хлопцы струны краталі
І запявалі аб Расіі.

З-за слёз жанчыны нас ледзь бачылі
Вось-вось, здаецца, загалосяць,
Што нават песню,
песню матчыну,
Да іх прывезлі
толькі ў госці,

Што з сэрцам іх даўно разлучаны
Радзімы вёсны і пакуты
І песні ўжо без іх развучаны
Пра міжпланетныя маршруты...

**ВУЛІЦА БЕЗ НЯДЗЕЛІ**

Яны абступалі машыны
І доўга па нас глядзелі —
Старыя, суровыя фіны
З вуліцы Без Нядзелі.

Са згорбленымі плячамі,
Аднолькавыя, як здані,
Стаялі яны і маўчалі,
Маўчалі
і нас разглядалі.

І ў памяць забытай сагай
Вярталіся годы тыя,
Калі і яны таксама
Былі, як і мы, маладыя.

Былі і яны пры сіле
І ў наравістага лёсу
Работы толькі прасілі,
Ветразя,
лодкі,
вёслаў.

А вёслы бяда ламала,
А ветразь звісаў безнадзейна.
Ім лёс пакідаў толькі скалы,
Сосны,
сяброў
і нядзелю.

Нядзеля —
Для іншых свята
(Сядзі ды палузвай семкі).
Для іх
была яна хатай,
Куды прывядуць яны сем'і.

Яны па суботах не спалі
І доўга жылі без нядзелі,
Каб расступаліся скалы
І гонкія сосны радзелі.

Плацілі крываваю платай
За хату,
за ціхае шчасце.
Не сосны, а жылы напятыя
У зрубы прыйшлося пакласці…

Стаяць акуратныя домікі,
Хоць зараз бяры іх у фільмы…
Ды сумныя,
як бяздомнікі,
Старыя, суровыя фіны.

Без свята,
без сонца,
без ласкі
Хмурнелі яны і худзелі.
І могільнікам здалася
Мне
вуліца Без Нядзелі.

*г. Лахці*

**БЕЖАНЦЫ Ў ХЕЛЬСІНКІ**

Я помню —
худыя, з вялікімі клункамі,
З-пад Себежа і з-пад Бежыцы
У нашы вокны фанерныя грукалі
Бежанцы.

Мы з імі дзяліліся бульбаю печанай,
Скарынкай,
соллю
і горам.

Мы клалі іх спаць на саломе ля нечы,
Заплаканых і зморaных...

Яны сёння ў Себежы родным
і ў Бежыцы
Сынамі і ўнукамі цешацца.
І я ўжо забыў нават слова «бежанцы»,
А тут —
зноў сустрэліся бежанцы.

Ні клункаў, ні слёз...
Загарэлыя твары.
Касынкі, значкі фестывальныя...
«Мы — бежанцы...
Мы з Аргенціны, таварыш...
Сюды прыехалі тайна...»

Ім весела.
Ім у абдымках цесна.
А боль маё сэрца цісне.
Звініць на вуліцах Хельсінкі песня —
Бежанка аргенцінская.

Іх дома чакаюць іржавыя краты
З халоднай, нямой непазбежнасцю.
Дзесяткі краін.
Адусюль — дэлегаты.
А з Аргенціны — бежанцы.

За тое,
Што міру хочацца,—
бежанцы,
За тое,
Што шчасця хочацца,—
бежанцы,
За тое,

Што дружбы хочацца...
Думкі — бежанцы,
Песні — бежанцы...
Калі ж гэта ў свеце скончыцца?

**РУКІ ФЕСТЫВАЛЯ**

Больш за ўсё
Я запомніў на фестывалі
Не феерверкі,
Не песень гукі,
А рукі,
Што нас кожны дзень абдымалі,
Рукі,
Сяброўскія цёплыя рукі.

Тыя,
Што вобзем сосны кідалі,
Выстругвалі з іх калыскі
І труны,
Тыя,
Што з глыбы глухога металу
Зрабілі тонкія звонкія струны.

Я помню юнцоў,
Саплівых і чысценькіх.
Яны нам паказвалі кулакі.
Мы ведалі,
Што ў кулаках заціснута,—
Нью-йоркскія медныя пятакі.

За кулакі
Плацілі даларамі,
На іх

Спустошвалі бонскі капшук...
А мы,
Савецкія,
Атрымалі дарма
Дзесяткі тысяч сяброўскіх рук.

Да хрусту ў касцях
Нас абдымкі сціскалі...
І я ўспамінаю,
Як міру заруку,
Сустрэчы,
і песні,
і смех фестываля,
А больш за ўсё —
Сяброўскія рукі.

*г. Хельсінкі*

* * *

Я хачу прайсці па зямлі
Самым верным, любімым сыпам.
Каб дарогі мяне вялі
Пад вятрамі прасторам сінім,

Каб нямоўчна ў мяне на плячах
Росным раннем спявалі птушкі,
Каб я кветкамі ўсімі прапах
Ад падэшваў да самай макушкі,

Каб легенды глухой сівізны
Мне з даверам дубы шапталі
І крыніц залатыя званы
Для мяне калыхалі хвалі.

Я хачу прайсці па зямлі,
Каб мне людзі сэрца адкрылі,
Слёзы шчасця і мазалі
Па-братэрску са мной падзялілі,

Каб мне роўную частку далі
Сваёй ношы нялёгкай пранесці
І свае галасы ўплялі
У мае няхітрыя песні...

* * *

Шпак спявае...
Стамлення крылы — ўразлёт,
Ад зямнога,
вясновага шчасця
зажмураны вочы.
Доўга песню хаваў ён за морам
ад сцюжы і слот,—
І яна ў цёплай дзюбе
цяпер і звініць
і булькоча.
Падлятае,
трымціць —
не сядзіцца шпаку,
Быццам
недзе хапіў непатухлага жару
І збіраецца
з клейкіх пупышак
на кожным суку
Распаліць
сто маленькіх
зялёных пажараў...

* * *

Яшчэ доўга на ўсіх раздарожжах,
Між чужых, незнаёмых людзей,
Буду я табе сэрца трывожыць
Успамінамі кожны дзень.

І калі пацалунак нечы
Раптам губы твае апячэ,
Ты успомніш:
а той, ранейшы,
Цалаваў усё ж гарачэй.

І быць можа, на тых раздарожжах
Зразумець ты паспееш яшчэ:
Ад мяне уцячы ты можаш,
Ад кахання ж — ніяк не ўцячэш.

**КАСТРЫЧНІЦКІ ЛЕС**

Сосны жоўтыя,
як з воску.
Вепрукоў старых сляды.
Пакідаю ўранні вёску
І спяшаюся сюды.

Каля ног гараць брусніцы —
Нібы ў красках летні луг.
Ад ціліньканне сініцы
Ельнік здзіўлены аглух.

Смела шастаюць вавёркі,
Цягнуць познія грыбы.
Пад кустом ажыны горкай
Вожык фыркае рабы.

Мне ж
нічога тут не трэба,
Ні звяроў,
ні жухлых траў.
Я не браў з сабою стрэльбы,
Нават кошыка не браў.

Можа, ты і не паверыш,—
Толькі я сюды спяшу
Не па ягады —
па вершы,
Што калісьці напішу.

* * *

Гэта цяжка, таварыш,
Разам кашу варыць.
З кожным стрэчным не зварыш.
Тут не трэба мудрыць.

Тут такія парадкі,
Што пароўну дзялі
І зацішак палаткі,
І вяндліны скрылі.

Часам компас саб'ецца,
Мы ж асільваем шлях,
Толькі грукаюць сэрцы,
Толькі соль на губах.

Без папрокаў і скаргаў
Мы нясём за спіной
Дзесяць знойдзеных скарбаў,
Дзвесце казачных сноў.

І калі ўсё стрываеш,
На вяршыні гары
Вельмі добра, таварыш,
Разам кашу варыць.

* * *

Адышлі ў нябыт панегірыкі
Сціплым вінцікам,
спешнай сяўбе.
Людзям хочацца шчырай лірыкі
Не пра вінцікаў,
пра сябе.

Людзям хочацца
песні звонкай
Не пра мудрасць высокіх пасад,
А пра сінія матчыны вокны,
І пра раніцу, і пра сад.

Людзі хочуць, каб гімн зайгралі,
Калі плошчы запоўніць парад,
І пра іхнія рукі і раны,
І пра будні (іх болей, чым свят).

Людзі хочуць, каб званні і славу
Не давалі нікому дарма...
Людзі маюць па гэта права.
Ім дала яго праўда сама.

* * *

Сябрам мы прысвячаем эпітафіі,
Калі паклічуць за труной ісці...
А чым сябры, скажыце, не патрапілі,
Што мы аб іх не пішам пры жыцці,

Што словы выпакутаваныя выкласці
Спяшаемся чамусьці для другіх
І нават лічым найвышэйшай сціпласцю,
Што вось маўчым пра іх, пра дарагіх?..

Яны ж, крыклівай славай не пакрытыя,
Сябе не выстаўляюць напаказ
І вершы нашы лаюць больш, чым крытыкі,
І можа больш, чым жонкі, любяць нас.

Адданасць іх мужчынская і вера —
Найлепшы дар з усіх зямных дароў...
О, колькі мы не напісалі вершаў,
Сапраўдных вершаў пра сваіх сяброў!..

* * *

Сінія званочкі, сінія званкі
Сталі сасмяглыя, сонныя.
Мы іх збіралі, ставілі ў збанкі,
Паілі вадой сцюдзёнаю.

Мы іх хавалі ў цень ля сцяны,
Ставілі на падаконнікі
І верылі,
                што ад шчасця яны
Зазвоняць тоненька-тоненька.

Яны ж на луг пазіралі з вакна —
І ніводзін нават не дзвынкнуў.
І была ў сінім сэрцы кожнага званка
Белая-белая слязінка...

## ЮНАЦТВА СІНІЯ АРЭЛІ

*Юлі*

Яны прыглушана рыпелі
Сярод старых кашлатых ліп.
Мы тыя сінія арэлі
Зламаць нікому не далі б.

Над імі гойдаліся далі,
Яны нам казкаю былі —
І ў неба сіняе ўзляталі,
І ледзь краналіся зямлі.

І як бы мы ні пастарэлі,
Няхай і летам і зімой
Юнацтва сінія арэлі
Ляцяць між небам і зямлёй...

* * *

У прысадах цяністых
Я сустрэўся з табой,
Маёй светлаю, чыстай
Веснавою журбой,

Маёй ціхаю казкай,
Маёй першаю ласкай.

Тут мы часта хадзілі
Ля альтанак пустых,
Ціхім шэптам будзілі
Юных клёнаў лісты,

Новых сцежак шукалі,
Першых промняў гукалі.

А сягоння блукаю
Я адзін да святла
І прычыны не знаю,
Што з табой развяла,

Маім шчасцем пявучым,
Маім болем пякучым.

І усё, як калісьці,
У прысадах вясной:
Ліпкі ліпкае лісце
Параспраўілі зноў,

Клёны росамі ззяюць,
Птушкі сонца гукаюць,
Росам зоры варожаць,
Успамінам трывожаць
Маё сэрца.

## ЗНОЎ ПАБАЧЫЎ ЦЯБЕ...

Цэлы тыдзень хадзіў я прыгнечаным,
Не гулялася, не спявалася.
Кожнай раніцай, кожным вечарам
Сэрцу нечага не ставала ўсё.

А сягоння,
                    зусім няпрошана,
Нечакана, неспадзявана я
Зноў убачыў цябе, харошая,
Дарагая, нецалаваная.

І гатоў салаўём заліцца я
На лады, на калены розныя,
Каб дзівілася нават міліцыя,
Што такімі бываюць цвярозыя.

І нясу,
          каханнем асвечаны,
Па вясновай зямлі сэрца гром-біццё.
Паглядзяць на мяне сустрэчныя —
  І таксама шчаслівымі робяцца...

* * *

У марознай поўначы
Сінім небам яркім
Да азяблых зорачак
Месяц гоніць хмаркі.

На прасторы ціхія,
На шляхі-сцяжынкі
Падаюць блакітныя
Звонкія сняжынкі.

І дубы пакрэктваюць:
Здзіўлены, расчулены
Чысцінёю светлаю,
Цішынёю чуйнаю.

* * *

Я часам сам сябе не пазнаю:
Разважлівы, спакойны і цвярозы,
Пра маладосць бясхмарную маю
Усё часцей ка мне прыходзіць роздум.

Я ўсё стражэй да слоў сваіх і рук,
Трывожыць сэрца мне любая дробязь,
Нібы адказнасць я за ўсё бяру,
Што ў цэлым свеце думаюць і робяць.

І з кожным днём вярней мне дружбакі,
І ўсё цвярдзей
любоў,
нянавісць,
вера.
Ці то характар робіцца такі,
Ці гэта сталасць стукаецца ў дзверы...

**ПОЎДЗЕНЬ**

Я веру поўдню.
Ён не памыляецца,
Бо ён не мае у сабе
ані
Туманнасці яшчэ санлівай раніцы
І стомленай вячэрняй цішыні.

Я веру поўдню.
Казкі не лапоча ён
І позехам даўгім не крывіць рот,
А моўчкі ўсмак працуе заклапочана
Ды рукавом з ілба ўцірае пот.

Ідзе сваёй прывычнаю дарогаю
І памятае, ведае адно —
Ужо ў зеніце самым сонца строгае,
І ўсё як ёсць адтуль яму відно.

Я веру поўдню.
Веру,
бо з цвярозасцю,
Са сталасцю
ён дружны недарма.
І ў ім няма вячэрняй асцярожнасці
І ранішняй туманнасці няма.

Я веру поўдню...

